# Прамень свабоды

Калі 25 сакавіка 1918 г. Беларуская Нацыянальная Рада абвесьціла Беларусь самастойнай сувэрэннай дзяржавай,у той мамэнт у салю Кангрэсу ўпаў раньні прамень веснавога сонца,асьвятляючы прамянеючыя радасьцю абліччы дэлегатаў. Так апісвае гэты ўрачысты мамэнт у нашай гісторыі адзін з удзельнікаў. Бо і як не маглі радавацца тыя дэлегаты,калі векапомны акт 25 Сакавіка можна параўняць з сонечным праменем; ён як прамень агрэў усе беларускія сэрцы. Гэта быў быццам той сонечны прамень які ўпаў праз закратаваныя вокны вязьніцы,уліваючы ў сэрцы паняволеных надзею на лепшае заўтра,пабуджаючы кроў мацней кружыць у жылах. Да яго яны выцягваюць свае худыя касьцістыя рукі,на яго глядзяць іх сумныя вочы. Забытыя людзьмі,кінутыя ў падвалы турмы,ня маюць другое радасьці,акрамя гэтага цёплага праменя,які ім прыносіць надзею свабоды. З падобнай надзеяй зьвярнуліся вочы ўсіх беларусаў на акт 25 Сакавіка,які ставіў Беларусь як раўнапраўную ў рады вольных дзяржаваў,зрываючы путы вяковай няволі. Але нядоўга давялося цешыцца беларусам з сваіх асягненьняў. Блеск 25 Сакавіка прысланіла чорнае варожае крыло нахабных суседзяў і зноў запанавала цемра і зьдзекі. Тысячамі пагналі лепшых сыноў народа ў турмы Картуз-Бярозы,Салаўкоў ды на ссылку ў тайгі Сібіру. Але кожны з іх нёс у сэрцы надзею,што калісь іхнія мукі закончацца і хоць не яны самі дык іхнія нашчадкі дачакаюць вызваленьня. А тыя,што асталіся на родных палетках,таксама гарэць тым самым полымям,якое ахоплівае ўсё большыя кругі,гартуе новыя сілы да канчатковага змаганьня за свабоду.

Паводле Боскіх і людзкіх правоў,кожны чалавек на зямлі ёсьць істотай вольнай і ў аднолькавай меры можа карыстацца з усіх зямных дастаткаў. Толькі людзкая заздрасьць і імкненьне нажывы спрычынілі барацьбу, злачынствы,зьдзекі над другімі. Нашыя суседзі дапусьціліся адносна нас самага большага зладзейства,якое можна зрабіць адносна свайго бліжняга - гэта зрабаваньне свабоды. І заздрасна сьцерагуць,каб мы яе сабе не здабылі зноў,а на вонкі паказваюць сябе як вялікіх гуманістых або хрысьціян,жадаючы нам дапамагчы,быццам мы самі ня здольныя сабе даць рады ў жыцьці. Укладаюць для нас канстытуцыі,падпісваюць цэлы рад дагавораў супрацоўніцтва і дапамогі нам,але ўсё гэта мае столькі вартасьці,сколькі варты маральна адзінкі,якія іх падпісваюць. Прыгожыя словы,прыгожыя праекты прыкрываюць быццам фарнера сапраўдны агідны іх стан фалшу і ненавісьці. Толькі адзіны аргумант можа да іх прагаварыць - сіла. А сіла наша ў нашай еднасьці,арганізаванасьці вакол Рады і Ураду Б.Н.Р. ды непахіснай волі змаганьня за ажыцьцяўленьне Акту 25 Сакавіка. Таму ворагі беларускага народу прыкладаюць усіх стараньняў,каб гэтую сілу разьбіць і заўсёды будуць дзеіць у гэтым напрамку. Але калі кожны з нас цьвёрда пастановіць у сваім сэрцы,што лепш загінуць вольным чым памерці нявольнікам,дык пераможам усе перашкоды і створым такую сілу,якая здолее ўзьняць волатаў меч,каб адсячы чорнае крыло што прысланіла нам сонца.

Кожны з нас мусіць ведаць і адчуваць да якой ступені ён можа спрычыніцца да росту гэтае сілы.

# Абыякавасьць

У літэратуры і прэсе кожнага народу найбольш увагі прысьвячаецца ўсім тым падзеям,якія глыбока ўзварушаюць людзкія сэрцы і тым адзінкам,якія сваім прыкладам , паступкамі перайшлі межы банальнасьці ды часта рызыкуючы сваім жыцьцём,або аддаючы яго на службу ідэалу,прыцягнулі на сябе агульную ўвагу,здабываючы гэтым вялікую пашану і славу. Чалавек адчувае патрэбу чагосьці вялікага ў жыцьці,бо толькі вялікае можа яго захапіць,перад ім ён можа дрыжэць. Толькі вялікія людзі могуць вясьці за сабою іншых і быццам тыя сьветачы асьвятляюць шлях,што вядзе да лепшае будучыні. Агульна ведама,што якая-б ня была асьвета чалавека,культура,яго сацыяльны стан і г.д.,калі ён знойдзецца перад веліччу людзкога генія,мімаволі схіляе сваю галаву. І дзеля гэтага ўсе нацыянальныя героі ў кожным народзе,вучоныя і асабліва сьвятыя акружаюцца вялікай славай.

Які-ж людзкі твор мы можам уважаць вялікім і каго з людзей мы можам называць вялікім з нашага гледзішча, г.зн. з гледзішча хрысьціянскага?

Кожны людзкі твор,які ў сваім зародку ёсьць канструктыўны і прыносіць услугі для людзкасьці,паднімаючы ў першую чаргу яго духовы ўзровень і тых людзей,якія сваёю працаю і паступкамі спрычыняюцца да поступу чалавека на шляху людзкое годнасьці,вядучы на вышэйшы ўзровень маральнага і духовага жыцьця. Вялікім можа быць той,хто мае Бога ў сэрцы,і то ня ў вонкавых праявах рэлігійнага жыцьця,але ў практычным выкананьні рэлігійных прыказаньняў.

У жыцьці мы разрозьніваем тры катэгорыі людзей з гледзішча адносін чалавека да ягоных грамадзкіх і рэлігійных абавязкаў:

а) Тыя,якія сваёю працаю і паступкамі,ляяльным адношаньнем да іншых,спрычыняюцца да поступу свайго народу і людзкасьці,у якіх галоўным рухавіком ёсьць нясеньне дабра і помачы іншым - гэта тыя канструктыўныя сілы,якім мы заўдзячваем ўвесь дабрабыт і росквіт культуры. З гэтай катэгорыі рэкрутуюцца ўсе людзкія геніі,сьвятыя і героі.

б) Тыя,якія даюць волю сваім нізкім жаданьням злодзеяньня ды зьвярыным інстынктам,імкнуцца разбураць усё добрае,выкарыстоўваючы часта дзеля сваіх мэтаў людзкую нясьведамасьць. Яны могуць быць вельмі інтэлігэнтныя і часта выступаюць пад лёзунгамі абароны пакрыўджаных ды пабудовы новага,лепшага ладу,але ў сапраўднасьці прыносяць толькі зьнішчэньне,хаос ды паніжэньне чалавека да стану жывёлы. Гэта сілы зла і яны ўсьцяж вядуць барацьбу з сіламі папярэдняе катэгорыі. Гэта ёсьць адкрытыя ворагі ўсяго сапраўды добрага.

в) Да трэцяе катэгорыі адносяцца ўсе т.зв. "абыякавыя". Вось над гэтай групай варта затрымацца крыху даўжэй і прыглянуцца да тых,каго можна назваць "абыякавым",або т.зв. "цёплым".

Абыякавасьць ёсьць надта нізкай азнакай чалавека,бо нават у Апокаліпсе гаворыцца: "Таму,што ты ня ёсьць ані гарачы ані халодны,таму я цябе выблюю з сваіх вуснаў". Гэта так,як дзеля смаку: калі суп ёсьць гарачы (булён),або халодны (халаднік),дык яго прыемна есца,але калі толькі летні,дык людзі ім брыдзяцца і адсоўваюць ад сябе талеркі.

Прыкметы абыякавага чалавека ёсьць такія:

I) Адсутнасьць духовага ўздыму. Гэта значыць ,калі чалавек не цікавіцца нічым вышэйшым,ані Богам,ані ідэалам. Такі чалавек ніколі ня моліцца. Пашто яму малітва,калі ён не адчувае патрэбу яе,ні яе дабрадзеяньне. На яго думку,гэта толькі трата часу ды вера ў нейкі забабон. Пашто яму заварочваць галаву нейкімі ідэаламі,калі яму і бяз іх"добра"жывецца. У сапраўднасьці-ж,ня ў чым іншым,як у малітве шукалі канцэнтрацыі сваіх сілаў,супакою нэрваў ды натхненьня ўсе тыя,на якіх мы пазіраем з падзівам. Малітва адрывала іх ад усіх штодзенных клопатаў,падмацоўвала волю і ў заціішшы душы падрыхтоўвала вялікі твор,які дасьпеўшы выплываў ва ўсёй сваёй красе і сіле.

Хто ня мае ніякага ідэалу,ніякіх вышэйшых мэтаў у жыцьці,а задавальняецца тым,што кожны шэры дзень яму прынясе,ня робіць найменшага высілку,каб усьцяж непахісна йсьці наперад з надзеяй палепшыць сваю собскую і долю іншых,той хутка старэе,любоў у ім зьнікае,апаноўвае фізычная змучанасьць ды абрыда да жыцьця. Прыказка-ж кажа: "Дапамагай сам сабе,дык і Бог табе дапаможа". Сьвет належыць да людзей сільных характарам і фізычна,і толькі тыя,што ўсьцяж маюць перад сабою вызначаную мэту і натужваюць усе свае сілы,каб да яе дайсьці,перамагаюць усе перашкоды на шляху людзкога поступу. Ім ніколі жыцьцё ня брыдне,а іх сілы ўсьцяж узрастаюць.

2) Адсутнасьць пакоры і самаапанаваньня.

Ня прызнаючы нічога вышэйшага,чалавек звычайна горда ўздымае галаву,пакуль не спаткаецца з брутальнаю сілаю; перад ёю ён раптам ператвараецца ў нішто,але схіліць галаву перад Богам,упакарыцца Яму, прызнаць яго валадарства ў сусьвеце - гэтага ён ня можа,бо-ж ён Яго ня бачыў і ня верыць у Яго наяўнасьць,а шукаць Яго ў жыцьцёвых праявах у сусьвеце ён ня здольны ды за лянівы. Дык і пакланяцца тым "ідалам",якія ёсьць сымбалямі Бога,ён ня хоча,а магчыма іншыя будуць яго за гэта высьмейваць. У сацыяльным жыцьці такая адзінка ня хоча пакарацца сваім кіраўнікам,якія да яго прамаўляюць палюдзку,але прызнае іх аўтарытэт,калі да яго зьвернуцца з брутальнаю сілаю. Пакора вымагае вялікага самаапанаваньня і веры.

Падобна ён ня можа адмовіць сваім пажаданьням і прыемнасьцям,бо адмова ў сваю чаргу вымагае таксама вялікага самаапанаваньня. Таму жыве ды карыстае,пацяшаючы сябе славамі: "пасьля мяне хоць патоп". Але гэтая пагоня за наземнымі манлівымі пошукамі шчасьця часта заводзіць яго на дарогу маральнага ўпадку.

3) Працаваць выключна для сябе самога,а не для агульнага дабра.

Ён кожную працу распачынае выключна і толькі з разьлікам як вялікі даход яна яму прынясе,а не дзеля любові да самое працы. Дзеля гэтага і якасьць яе ёсьць вельмі благая,ды і валіцца яна яму з рук. Але калі-б ён яе выконваў не дзеля самога заработку,а з усім сэрцам, на славу Бога і людзям на карысьць,дык ня толькі меў-бы вялікае духовае задаваленьне,але і якасьць яе была-б зусім адменная,ды людзі аціанілі-б яе і належна заплацілі-б.

4) Зайздрасьць адносна свайго бліжняга.

Вось адна з самых нізкіх і брыдкіх азнакаў характару. Зайздрасьць

вядзе да самых подлых учынкаў. Яна зьвязана з недаверам,з самалюбствам. Ен заздросьціць можа пераважна ўсяму таму што бачыць у іншых – матэрыяльным дастаткам,славе,прыгастве.

Кожны чалавек мае нейкі талент,але ад яго самога залежыць,як ён яго зможа разьвіць і выявіць,дзеля гэтага заздросьціць камусь,хто найчасьцей сваёй працай дайшоў да лепшых вынікаў чым ён сам – нельга,таксама нельга заздросьціць фізычнай красе,бо духовая краса шмат прыгажэйшая за яе. Хто шчыра працуе ў сваім фаху і так-жа шчыра працуе над сабою,хто ня гультуе,той ня мае чаго заздросьціць іншым.

5) Шуканьне сяброў паміж горшымі.

Натура людзкая ня можа аставацца бязьдзейнай,дык той хто нічога ня робіць,амаль падсьведама шукае асяродзьдзя,якое ў гульнях забівае час. Няма нічога лягчэйшага як упасьці ў дрэннае асяродзьдзе, але як пасьля цяжка з яго выйсьці. Дык той,хто шукае сяброў паміж горшымі,упадабняецца да іх і сам становіцца дрэнным. Адсунуць ад сябе дрэнных,або накіраваць іх на добрую дарогу; пераканаць свайго сябру ў тым,што ён робіць дрэнна,каб ён больш гэтага не паўтараў – вось пастулак сапраўднага хрысьціяніна.

6) За шмат крытыкі ў сэрцы.

Хто бязьдзейна праводзіць свой час,напаткаўшы людзей,якія робяць нешта карыснае,адчувае неспакой сумленьня і заспакойвае яго пустою крытыкаю. Сам аднак баіцца або лянуецца прыкласьці свае рукі да чаго колечы,бо гэта вымагае шмат высілку,рызыка,а крытыкаваць, дык крытыкуе ўсіх і ўсё,уздоўж і ўпоперак. Гэта ня ёсьць доказ інтэлігэнцыі,ані разумовага развою,бо крытыкаваць абы толькі крытыкаваць,гэта ніякага высілку ня вымагае і заўсёды можна знайсьці да чаго прычапіцца,але зусім іначай прадстаўляюцца справы,калі самому закасаць рукавы ды ўзяцца за працу. Крытыка ёсьць рэччу добрай і павучальнай,калі яна талковая і калі мае на мэце прыслужыцца да агульнага дабра і праўды. Калі-ж нехта "крытыкуе"абы толькі некаму дапячы,гэтым акрамя шкоды нічога не асягне.

7) Махлярства.

Ня маючы вышэйшых ідэалаў у жыцьці і лянуючыся цяжкое працы, чалавек часамі пачынае махляваць,каб сабе здабыць багацьце,або каб здабыць нейкае паважнейшае мейсца,бо чалавек ня можа вызбыцца ўроджанага жаданьня да чагосьці вышэйшага,але той,хто хоць раз змахлюе перад сваім сябрам,або суродзічам,выкліча да сябе засьцярогу,але калі гэта паўторыцца,дык канчаткова страціць да сябе давер,які потым цяжка будзе здабыць сабе зноў. А калі хтось з падобным нахілам знойдзецца на адказным грамадзкім становішчы,дык такі крок будзе лічыцца непрабачальным,а мейсца страчаным.

8) Расхістанасьць.

Кожнае дзіцё ад сваіх бацькоў,настаўнікаў і сьвятароў атрымлівае ўзгадаваньне,быццам той багаж,які яму ёсьць неабходны на жыцьцёвым шляху. Усе традыцыі,звычаі,навука,ня ёсьць чымсь збытковым, бо досьлед паказаў,што якраз дзякуючы ім ён можа стацца чалавекам. Але,калі замест паглыбленьня і ўмацаваньня добрых звычаяў,наступіць расхлябанасьць,абыякавыя адносіны да рэлігіі,сям'і,бацькаўшчыны, тады ўпадае мараль адзінкі і яна,замест таго каб узносіцца да вы-

шыняў людзкое годнасьці,скочваецца што-раз ніжэй.

9) Шуканьне славы і гонараў.

Той,хто замест працы і добрых учынкаў шукае славы і гонараў для самое славы і для свмых гонараў,ня ёсьць адзінкай сільнай духова, адзінкай будуючай,бо яна ў пошуках славы можа пайсьці на подласьць, здраду,падхалімства. Да вялікіх людзей слава сама прыходзіць у рукі, яны яе і не шукаюць,тым ня менш яна іх суправаджае,быццам цень. У аснове імкненьня да гонараў ляжыць пыха,егаізм,жаданьне паказацца лепшым перад іншымі не сваею сапраўднаю вартасьцю - ён сьведамы,што такое вартасьці ня мае - але рознымі пустымі тытуламі,вонкавымі азнакамі,ордэнамі,за якія гатовы аддаць няма ведама што.

Для вялікіх людзей не слава і гонары прыносяць самае большае духовае задаваленьне,а праца,пошукі лепшага і пачуцьцё нясеньня помачы другім. Гонары ім зусім непатрэбныя,а калі іх іншыя паважаюць і славяць,дык да гэтага не прыдаюць значэньня.

Вось у галоўных рысах прызнакі абыякавасьці.

З усяго вышэй сказанага можам зрабіць высnaў,што кожны з нас, калі будзе імкнуцца пазбыцца ўсіх аб'яваў абыякавасьці,будзе падымацца штораз вышэй і з кожным днём будзе здольны прыняць на сябе што-раз большыя адказнасьці дык належна іх выканаць. Ен будзе йсьці дарогай вялікіх людзей,а як было ўжо вышэй сказана,той ёсьць вялікім,хто любіць Бога,бо мае здаровую душу,мае сілу і волю валодаць сабою,той ёсьць здольны тварыць вялікія рэчы ў жыцьці,той ёсьць здольны да найбольшых ахвяраў,да гераізму.

М.Смага

---------

## РЭЦЭПТ,КАБ СТАЦЦА НЯШЧАСНЫМ.

У некаторых часапісах даюцца рады і рэцэпты на тое,каб стацца шчасьлівым,але іх мала хто слухае,бо,відаць людзі больш жадаюць стацца няшчаснымі. Ідучы насустрач гэтым жаданьням,падаём рэцэпт да гэтага:

I. Заўсёды думай аб сабе.
2. Заўсёды гавары аб сабе.
3. У гутарцы найбольш ужывай слова -"Я".
4. Уважна сачы за тым,як іншыя гавораць аб табе.
5. Чакай,каб цябе іншыя хвалілі.
6. Падазравай у кожным ворага.
7. Будзь заздросным.
8. Не даруй нікому ніякае крытыкі аб табе.
9. Ня вер нікому,толькі сабе.
IO. Вымагай,каб цябе шанавалі і з табой лічыліся.
II. Вымагай,каб усе з табою гадзіліся,калі аб чым будзеш гаварыць.
I2. Гневайся,калі табе ня дзякуюць за дабрадзейства.
I3. Заўсёды жалуй сябе.

Папробуй так рабіць,дык хутка ня толькі іншым станешся нязносным, але і сам сабе абрыднеш і будзеш сапраўды няшчасным чалавекам.

# Haspadaravannie palakaŭ u Zachodniaj Bielarusi.

U Paryžu vychodzić pavažny polski časapis "Kultura". Tam amal u kožnym numaru parušajucca polska-ukrainskija adnosiny. Čas-ad-času tam možna strenuć słova Biełaruś,a časam źjaŭlajucca i advažnyja dumki. Voś napr. u Nr.II(61) z I952 h. Ks.Jazep Majeŭski z Afryki nazvaŭ polskija mroi ab pavarocie "Kresaŭ Uschodnich" da Połščy "latuciennimi sciataje hałavy". Na hety list u Nr.1 (63)"Kultury"z I953 źjaviŭsia cełу rad listoŭ z aburenniem,u jakich ksiendzu Majeŭskamu pahražajuć karnym kadeksam za"zradu stanu". Tamu što heta svarka ŭ polskaj siamji za častku našaje baćkaŭščyny,varta pry hetaj nahodzie pryhadać,jak haspadaryli palaki ŭ niedalokim minułym na abšary,za jaki tak zajadła svaracca.

Pierš-na-pierš nieabchodna spytacca: ci palaki sami ŭ svajoj śviedamaści ŭvažali "Kresy Uschodnie" za častku Połščy? Na heta z usioju peŭnasciu treba adkazać nie!!! Jakija na heta jošć dokazy? Niaźličonyja. Nichto nikoli na svoj abšar nia vysyłaje kalanistaŭ, tymčasam palaki svajo haspadaravannie na Zachodniaj Biełarusi,ci inakš Kresach Uschodnich pačali ad nasyłannia vajennych i cyvilnych kalanistaŭ ad pieršaha pačatku svaje ŭłady; za dva niapoŭnych hady da I-I-I923h. u Zachodniuju Biełaruś było vysłana 8 700 vajennych asadnikaŭ i ŭ I923 h. 9 000 cyvilnych. Potym pasyłannie asadnikaŭ pasilena.

Pobač z asadnikami vysyłana na "kresy" z centralnaje Połščy niaźličonych uradoŭcaŭ,hetym samym vyjaŭlajučy pierad usim śvietam falšyvaść svaich statystykaŭ, u jakich padavałasia,što na "kresach"jošć bolš 50 % palakaŭ - jakija jany byli palaki,kali im nie daviarali uradovych stanoviščaŭ!

Asabliva vymoŭnyja adnosiny palakaŭ da "Kresaŭ"vyjaŭlajucca ŭ pravoch da vybaru pasłoŭ u sojm. Kali ŭ centralnaj Połščy ŭ siarednim adzin pasoł vybiraŭsia ad 40 tysiač žycharoŭ,dyk na "Kresach" tolki ad I00 tysiač i bolš - takoje nieroŭnapraŭstva jošć najlepšym vyjaŭlenniem najhłybiejšaha pierakanannia polskich praviačych kruhoŭ ab niapolskaści "Kresaŭ".

Dy nia tolki palaki viedali ab biełaruskaści "Kresaŭ Uschodnich", ale tak-ža byli śviedamyja,što hetyja "Kresy"raniej ci paźniej ad ich adyduć nazaŭsiody,što jany,palaki,tych "Kresaŭ"nia ŭtrymajuć. Varta było hlanuć na "chałupy" asadnikaŭ,kab pierakanacca,što navat tyja nasłanyja kalanizatary ŭvažali siabie niaprošanymi haśćmi na Zachodniaj Biełarusi,jakuju im chutka prydziecca pakinuć z niasłavaju.

Ale asadniki nia byli kiraŭnikami polskaje palityki adnosna Zachodniaje Biełarusi,a nas najbolš cikavić jakraz pierakanannie tych kirujučych kruhoŭ,jakija na ŭvieś śviet kryčali i navat ciapier nie pierastajuć kryčać,ab polskaści "Kresaŭ Uschodnich". Voś-ža polskija palityki za ŭvieś čas svajho haspadaravannia na "Kresach"nia zbudavali nivodnaha kilametra čyhunačnaha šlachu. Nia zbudavali nivodnaje fabryki. Bolš taho - navat tyja,jakija pierš byli,daviali da ruiny. Vilenskaja Handlova-Pramysłovaja Pałata paviedamlała,što ŭ I912 h. na abšary Biełarusi było ŭsiaho 770 cenzovaje pramysłovaści z 28 749 rabotnikami,a ŭ I929 h. z hetaha liku astałosia tolki 243 pradpryjemstvy z I0 372 rabotnikami. Kali-b palityki mieli choć najmienšuju vieru,što ŭtrymajuć pry Połščy "kresy" dyk tak pa-mačašamu nie adnosilisia-b da pramysłovaści. Kali palaki pačali razbudoŭvać svaju pramysłovaść,dyk vabrali da hetaha abšar paŭdniovaje i centralnaje Poł-

ščy,dy zasnavali słavuty COR (Centralny Okręg Przemysłovy).

Kali nie zvažajučy na ŭsio heta jość jašče polskija palityki, jakija starajucca i dalej kryčać ab svaich pravach da "Kresaŭ Uschodnich",dyk varta prypomnić,jak haspadaryli kaliści na hetych "Kresach".

Pa-pieršaje spytajmasia,što palaki pryniešli dobraha dla tych "Kresaŭ"? Dasłoŭna,ničoha! Praŭda,jany mohuć chvalicca,što zarhanizavali niekalki tysiač pačatkovych škołaŭ,ale-ž heta zrabili na ruinach biełaruskaha školnictva - jany źniščyli 436 biełaruskich pačatkovych škołaŭ, 6 himnazijaŭ i 2 seminaryi,astaviŭšy adzinuju Vilenskuju Biełaruskuju Himnaziju,jakuju tak-ža prajektavali začynić.

Jany vydavali niekalki sot polskich hazetaŭ i časapisaŭ,ale heta rabili z haniebnych palanizacyjnych mierkavanniaŭ,kanfiskujučy i zabaraniajučy biełaruskija hazety i časapisy.

Jany zakładali roznyja polskija arhanizacyi,jak "Kółko Rolnicze", "Strzelcy"i pad. - ale-ž heta nijakaja kultura,a najahidniejšyja nasilnyja staranni palanizacyi i bolš ničoha. Prytym adnačasna likvidavalisia biełaruskija arhanizacyi,jak "Biełaruski Kaaperatyŭny Sajuz","Biełaruskuju Cialanska-Rabotnickuju Hramadu","Tavarystva Biełaruskaje Škoły","Biełaruski Instytut Haspadarki i Kultury","Biełaruski Nacyjanalny Kamitet" i inš. Navat nie zaśvierdzili "Biełaruskaha Hurtka Ćviarozaści" - voś-ža nia kultura,ale razbojnickaja palityka.

Jany pabudavali niekalki damoŭ bolšych raźmieraŭ,ale-ž tam pasadzili svaich nasłanych uradaŭcaŭ-palanizataraŭ. Da taho adnačasna jany zburyli Alaksandra-Nieŭskuju carkvu ŭ Horadni,niedakončany sabor u Biełastoku,bolš 150 dzieraviannych paunijackich cerkvaŭ na Paleśsi,Padlaśsi i Chołmščynie - z hetaha hledzišča palaki spaborničali z balšavikami. Miž inšym u adnosinach da cerkvaŭ vyjaviłasia, što padčyrkvany ŭsiudy polski katalicyzm jość pustachvalstvam,bo-ž u 1938 h. pa zahadu polskaha vajavody Kostek-Bernackaha zapiačatana katalickuju carkvu ŭschodniaha abradu razam z Najśviaciejšymi Darami. Voś uviaźniena samoha Chrysta.

Jany zasnavali bolš sotni novych katalickich parachvijaŭ,ale-ž adnačasna pieratvaryli ich u vohnišča palanizacyi,bo zabaranili biełaruskija kazanni,a biełaruskich śviataroŭ pavysyłali z Biełarusi. Napr. u Žodziškach pieranieśli ks.Hadleŭskaha i na jaho miejsca pryprysłali ksiandza palaka; kali vierniki jaho nie puskali ŭ śviatyniu,dyk palicyja siłamoc vyłamała dźviery i ŭviała novaha ksiandza ŭ kaścioł.

Kali navat niekatoryja z polskich ksiandzoŭ brydzilisia panižać svaju hodnaść da roli palanizataraŭ,dyk tady polskija aficery z "Korpusu Ochrony Pogranicza" biaruć u ruki "misijanerskuju"dziejnaść u pieraciahvanni biełaruskaha i ukrainskaha nasielnictva na polskaść pad vidam pierachodu na katalictva - heta rabiłasia jakraz tady,kali vysialalisia z Zach.Biełarusi:ajcy Maryjanie z Drui,ksiandzy Stankievičy i Tałočka z Vilni,a.Haroška sa Stoŭpcaŭ i inšyja. Adnačasna z biełaruskim katalickim duchavienstvam vysyłalisia z Biełarusi najbolš aktyŭnyja biełaruskija dziejačy,jak inž Klimovič i šmat inšych.

Uvieś čas haspadaravannia palakaŭ na "Kresach" turmy byli pierapoŭnienyja biełarusami (u 1938 h. u turmach było 164% bolš źniavolenych,čym mahli źmiaščać. ale mima hetaha śviedamaść biełaruskich masaŭ biazupynna ŭzrastała,- tady palaki schvacilisia za najbolš hrubuju siłu,kab zdušyć biełaruski i adnačasna ukrainski ruch - zakładajuć u Kartuskaj Biarozie kancentracyjny laher,jaki ničym nia byŭ horšy ad savieckich Sałaŭkoŭ i Kałymy dy nazistoŭskich Buchenvaldaŭ i Da-

chaŭ,ci Aŭšvicaŭ. Ci-ž i sučasnyja polskija palityki mrojać aščaslivić bie/arusaŭ novymi Biarozami-Kartuskimi???

Ale-ž usich palaki nie mahli zahnać u Kartuskuju Biarozu,ale i ŭ supakoju nie chacieli pakidać - pačali palanizavać Pravas/aŭnuju Carkvu i da taho pryśpiešanym tempam; pierak/ali bahas/užebnyja knihi na polskuju movu i pačali ŭvodzić polskija pravas/aŭnyja bahas/užeńni,kazańni ŭ polskaj movie - jašče i sionnia ŭ Londanie japiskap Mateuš Siemaško pradaŭžaje pašyrać "Polskuju Pravas/aŭnuju Carkvu"za hrošy polskaha ekzylnaha ŭradu,kab pakazać,što palaki ničuć na lepšaje nie źmianilisia. Jašče i sionnia pradaŭžaje isnavać u Londanie "Związek Ziem Wschodnich" - vidać na toje,kab prypaminać,što tolki palaki dumajuć karystacca bie/aruskimi ziemlami,jak heta by/o da 1939 h.,kali by/o zabaroniena bie/aruskim sialanam kuplać ziamlu,biez dazvo/u paviatovych starostaŭ.

Dla paŭniejšaje charakterystyki haspadaravańnia palakaŭ u Zachodniaj Bie/arusi treba jašče dadać,što padpisany ŭ 1919 h. Versalski dahavor ab pravoch nacyjanalnych mianšyniaŭ,palaki nikoli nie zachoŭvali,a 31.IX.1934 h.polski ministar Bek aficyjalna admoviŭsia ŭ Ženevie pierad Lihaju Nacyjaŭ zachoŭvać pravy nacyjanalnych mianšyniaŭ.

Administracyjnaja samauprava samauradaŭ,zabiaśpiečanaja kanstytucyjaj na abšary Zachodniaj Bie/arusi sta/asia pustym s/ovam ŭ abliččy ŭsieŭ/adnaha teroru polskaje palicyi.

Nasilstva zaŭsiody maje niekatoryja vyniki - mieli ich tak-ža i palaki ŭ dačynieńni da "Kresaŭ Uschodnich",ale ci heta pryčyni/asia da ŭzmacnieńnia Polščy? Adkazam na heta moža być fakt,što paśla abvieščańnia niemcami vajny,za dva tydni ad hanarlivaje "mocarstvovaje" Polščy nie asta/osia i śledu. Nadźmutyja i chanyberlivyja panki dali dra/a zahranicu i pazašyvaŭšysia jak myšy ŭ dziurki durać dalej siabie i tych,chto ich jašče s/uchaje.

U 1947 h. Alaksandar Bocheński vydaŭ u Varšavie knižku: "Dzieje g/upoty w Polsce"- novaha nam jon ničoha nia kaža,moža chiba tolki choča pieraścihnuć inšych svaich surodzičaŭ u"h/upocie",asabliva ŭ adnosinach palakaŭ da inšych narodaŭ,adnak sam nazoŭ knihi jość chiba najtrapniejšym nazovam adnosinaŭ palakaŭ da inšych,i asabliva da bie/arusaŭ. Sumna što i padziei apošniaje vajny ničoha palakaŭ nie navučyli. Nia bačać jany,što sionnia ŭ Abjednanych Nacyjach siadzić užo tolki maryjanetačny pradstaŭnik Polščy,ale tam-ža siadzić pradstaŭnik Bie/arusi taki-ž samy maryjanetačny,jak i polski,voś-ža zraŭnanyja ŭ pravoch i ŭ paniavoleńni. A da taho ŭ samaj Polščy,jak i ŭ Bie/arusi štoraz bolš źjaŭlajecca rasiejcaŭ na kiraŭničych stanoviščach i nie zvažajučy na ŭsio heta emihracyjnyja polskija dziejačy nie pierastajuć mroić ab paniavoleńni "Kresaŭ"- heta ŭžo niejkaja nia vylačalnaja "h/upota".

Ukancy varta spytacca:jak vyhladajuć polskija pretenzii da "Kresaŭ Uschodnich" z praŭnaha hledzišča? Ani samyja palaki,ani bie/arusy,jak adviečnyja žychary hetych ziemlaŭ,nikoli nijakim aktam nia pryznali nad saboju polskaha panavańnia. Vilenski sojm,jaki 20.2. 1922 h. ha/asavaŭ za da/učeńniem tak zvanaje "Siaredniaje Litvy"da Polščy,nia byŭ nijakim narodnym pradstaŭnictvam,heta byli prosta ludzi padstaŭlenyja polskim henera/am Želihoŭskim. Dy i to ichniaje "ha/asavańnie" adnosi/asia ŭsiaho da toje štučnaje "Siaredniaje Litvy"akupovanaje si/amoc polskimi vojskami. Ha/asavańnie bie/arusaŭ u polski sojm i senat nielha ŭvažać za hetkaje pryznańnie,bo ŭ ha/asavańni vybiralisia pas/y nie dla pryznańnia akupacyi,a tolki dziela abarony pravoŭ nasielnictva,dy i to paśla źmieny vybarčaje

systemy bie/arusy ŭ asnaŭnoj masie bajkatavali vybary,hetym samym vyskazvajučy svoj rašučy pratest suprać polskaje akupacyi.

Polskuju supraćbie/aruskuju palityku ŭmie/a vykarystoŭva/a balšavickaja prapahanda,zdabyvajučy prychilnikaŭ miž najbolš pryhnoblenymi. Hetuju niaśviedamuju prychilnaść i vykarystali balšaviki ŭ 1939 h.,zaniaŭšy Zachodniuju Bie/aruś i Zach.Ukrainu. Tady 10.IX adbylisia vybary delehataŭ na abšary ŭsiaje Zachodniaje Bie/arusi i navat z /omžanščyny - peŭna-ž hetyja vybary byli praviedzienyja pavodla savieckaje systemy,ale-ž hetyja vybary rabilisia ŭsiaho try tydni paśla akupacyi tych abšaraŭ; za taki karotki čas nielha by/o praviešci poŭnaje balšavizacyi zaniatych abšaraŭ. I voś henyja pradstaŭniki,tak z Bie/arusi,jak i z polskaje /omžanščyny farmalna praha/asavali ab da/učeńni tych ziamiel da BSSR.i aformili hety akt 2.XI.1939 h. Balšaviki potym handlavali bie/aruskimi ziemlami; 15.6.1940h. pieradali letuvisam Vilniu, 16.8.1945 h. adstupajuć Polščy /omžanščynu i Bie/astoččynu,ale ŭsio heta robiać nia pytajučysia voli navat tych "deputataŭ",jakich jany-ž sami padstaŭlajuć da "vybaraŭ".Voś-ža z praŭnaha hledzišča navat balšavickaje spraviadlivaści takaja maryjanetka,jak BSSR maje kudy bolšyja pravy da polskaje /omžanščyny,čym palaki da "Kresaŭ Uschodnich".

Usio heta varta prypomnić tym polskim palitykam,jakija šukajuć roznych praŭnych kručkoŭ,kab prysabiečyć čužyja ziemli. Kruki časam mohuć być karysnymi,ale časam vielmi niebiaśpiečnymi,dyk nia raim polskim zaślepleným palitykam, z pad znaku "Związku Ziem Wschodnich" pahražać karnym kadeksam tym svaim surodzičam,jakija advažvajucca pramović da sumleńnia polskaha narodu.

Pr.K.



STO TY DUMAJES AB HETYM ? (pytańni)

1. Jakija najciažejšyja rečy ŭ žyćci?
2. Jakija na śviecie najpryhažejšyja rečy?
3. Jak ča/aviek vitaje svoj prychod na śviet?
4. Što ludziam bolš patrebna i karysna,ci krytyka z zahanami,ci dobry pryk/ad?
5. Jakaja jość najbolšaja pieramoha?
6. Kali ča/aviek maje najbolšuju radaść?
7. Ci p/ač moža być pamocnym?
8. Chto pieršy vynajšoŭ kasmetyki?
9. Kali na śviecie by/a pieršaja vajna?
10. Jakaja žyvaja istota na śviecie moža być najbolš žarstokaju.

---

# Gaudeamus igitur...

"Gaudeamus igitur juvenes dum sumus"... "Ciešmasia,bo my jość maładymi"- takimi słovami pačynajecca studencki hymn. Śmat u ich jość praŭdy. Čystaja radaść jość taksama sposabam kab umacavać svaju volu. Jana jość krynicaj dziejnaj enerhii i abaroncaj ad hrachu. Bo ŭsio jość lohkaje,što-b čałaviek nie rabiŭ,kali jaho vykonvaje z pryjemnaściu.

Radaść jość soniečnym pramieniem,a soniečny pramień nośbitam žyćciovaje enerhii. Jon vyniščaje pleśń i hnillo. Šlachotnaja radaść upakaraje ŭsie nizkija hony,jakija mohuć nakiravać nas da hrachu.

Tolki,darahi siabra,dobra zastanavisia nad tym,kab nia źmiešvać "radaści"z"raspustaj". Mnohija miašajuć hetyja dva paniaćci. Dla niekatorych radaść,heta pjanstva,kafejka zatoplenaja ŭ cyharetnym dymie,huli,biaździejnaść,biazmetny spacyr i h.d. Nie biary z ich prykładu. Dla ciabie radasciu music być les napoŭnieny ptušynym spievam,kvitniejučyja łuhi,sumlenna vykanany abaviazak,a paśla jaho šlachotnaja ihra,najlepš spartovaja i ŭsio toje,što pryniasie tabie adpačynak i zadavaleńnie. Pčołka źbiraje miod z tysiačy maleńkich kvietak. Pić miod radaści z tysiačy drobnych nahodaŭ jość vialikim mastactvam jak treba žyć.

Sapraŭdnaja pramianiejučaja radaść moža vypłyvać tolki z čystaj dušy. Toj,chto maje niešta na sumleńni,daremna budzie staracca razviesialic siabie,niaŭpynnaja dumka budzie mučyć jaho sumleńnie,dakučać jamu,što zrabiŭ drenna,tamu jaho budzie apanoŭvać sum.

Małady čałaviek,jaki addajecca pjanstvu dy raspuście pa całych načach,a paśla ŭdzień śpić,jaki vykidaje hrošy praz vakno,hultuje, nikoli nie spryčynicca da roskvitu svajho kraju. Užo pahanski filozaf Seneka rabiŭ u svoj čas zakid,što hramadzkaść uzhadoŭvaje ludziej,jakija pierakručvajuć zaniatki dnia i nočy,dy paśla całanočnaj pjanki ŭdzień pracirajuć zaspanyja vočy.

Žalu hodnaja taja moładź,jakaja pravodzić čas studyjaŭ na hulach, jakaja nia znaje sapraŭdnaje čystaje radaści,nia maje šlachotnych uzlotaŭ,tracić marnatraŭna čas i hrošy,što baćki zarablajuć časami ŭ ciažkoj pracy. A skolki-ž jość tych maładych,dla jakich ludzi varažyli bliskučuju budučyniu,a jakija zrujnavali svoj talent addajučysia pjancy dy raspuście, u toj čas kali treba było vučycca. Śviaty Jeronim havoryć,što małady chłapiec,jaki pačnie pić,hinie biespavarotna.: "Vino i moładaść jość padvojnym bičom,jakija pabudžajuć ludzkija hony". Dziela hetaha Salvin kazaŭ,što nad ruinami kaliś mahutnaje rymskaje imperyi treba było-b paviesić nadpis: "Adzinaj pryčynaj našaha ŭpadku była naša niemaralnaść".

Nia dumaj što ja chaču kab ty byŭ surovy dy ahorkły. Naadvarot, ja chaču kab ty byŭ viasioły,z uśmieškaj na abliččy; kab ty nia byŭ małym,lohkadumnym pankom,hultajavatym,niekarysnym,jaki tracić svoj čas na huli. Ja tabie nie raju biehčy nasustrač usim niebiaśpiekam,kab pakazać nierazumnuju advahu,ale soramna mnie było-b bačyć ciabie,kali-b ty saromiaŭsia pakazacca na śviet,zamykaŭsia ŭ ciomnym pakoi i śvistaŭ tam tak,kab ciabie nichto nie pačuŭ. Nie chacieŭ-by ja ciabie tak-ža bačyć akrabatam,ale mnie było-b pryjemna bačyć ciabie,kali-b ty płavaŭ jak ryba i sprytna kruciŭsia na turniku. Nie chaču ciabie bačyć sumnym,ale kali śmiaješsia,jab chacieŭ kab ty rabiŭ heta ad ščyraha serca.

Pakolki ja lublu studentaŭ viasiołych,žyćciaradasnych,ruplivych, ja mocna niepakojusia,kali baču sumnych,biez zaniatkaŭ i pastareŭ-

šych pierad časam. Toj chłapiec,jaki sumna siadaje dzieś u kutku, maje dušu abo cieła chvoraje. Starajsia być zaŭsiody viasiołam, z uśmieškaj i pieśniaj na vusnach,tak jak vypadaje być maładomu i zdarovamu. Pakažy siabie ŭ dobrym nastroi navat tady,kali serca tvajo zalivajecca kroŭju,choć-by na heta vymahałasia niebyvałaje siły voli. I što jość jašče bolš pastaŭnym i hodnym pašany - budź zaŭsiody spakojny i pahodlivy dušoju,navat kali avałodvaje taboju vialiki sum. Paddavacca jamu? Nie,nikoli. Sum nia moža ŭvajchodzić u tvajo žyćcio. Ty musiš mieć dastatkova silnuju volu,kab nastavić barametr tvaje dušy na čas,jaki tabie adkazvaje. Ale spytaješ: a što rabić, jak zdarycca jakaja niaŭdača? Spakojna sabiraj enerhiju i biarysia za spravu nanava,ale lamantavać - nikoli. A kali ty zrobiš što drennaha? Zhrašyš? Kali musiš pakajacca ŭ dušy? Dyk navat tady nia možaš paddavacca pryhnoblenniu. Lepšaje žyćcio nia moža zakvitnieć na padobnaj sumnaj hlebie. Kali ty chočaš kab tvaja pastanova papravy nia była biaspłodnaj,ale zarukaj novaha,bolš šlachotnaha žyćcia,treba kab ty dadaŭ viasiołuju notu navat da śloz tvajho pakajańnia.

Pavodle Tihamer Toth
apracavaŭ M.N.

--------

## Vypadak na kładkaj darozie.

Biada nie pa lesie,a pa ludziach chodzić - heta,praŭda,staraja jak śviet prykazka. Voś Kiryłu biada - leta haračaje na dvare,a tut dziadźka pamior i pachavać treba. Praŭda,kiryłavamu synu Łukašu kudy horšaja biada - bo music jašče i chaŭtury spraŭlać,ale Kiryła na hetuju spravu maje svoj pahlad,jaki staŭsia ŭ jaho navat prykazkaju: "Što mnie chryściny - ciahni aśminy,što mnie viasiellie - trasi kišeni,voś chaŭtury dyk maje natury,i płačuć i hałosiać,i čaračku padnosiać".

Majučy taki žyćciovy klič Kiryła źbiraŭsia na chaŭtury ŭśmichajučysia. Praŭda,žonka,viedajučy dobra svajho čałavieka,pryhavarvała jamu na darohu:

- Ty-ž adno nia baŭsia tam,bo-ž sam viedaješ kolki raboty čakaje, ale z dziaćmi ad chaty adłučacca nie mahu.

- Dobra,dobra,čaho-ž ja tam budu bavicca. Ciapier letam nichto na chaŭturach zasiedžvacca nia budzie.

Ale abiacanka adno,a chaciennie heta druhaja sprava: voś tak zdaryłasia i z Kiryłam. Viarnuŭšysia z mohilnika na pačastunak i ŭbačyŭšy poŭna zastaŭleny stoł,jon zusim nie śpiašaŭsia damoŭ. Aparažniaŭ kilišak za kiliškam tak,što i jazyk raźviazaŭsia i ŭ hałavie zašumieła i ŭžo dobra pačało sutanieć,kali Kiryła,raźvitaŭšysia z Łukašom, nakiravaŭsia damoŭ padśpieŭvajučy niešta pad nosam.

Kiryłava žonka ŭžo niekalki raz vychodziła na vulicu, kab pahladzieć,ci dzie nia ŭbačyć svajho mužyka.

-Dzie-ž padzieŭsia? Užo i dzień kančajecca,a jaho niama - kazała vyša ŭšy pieršy raz.

- Što z im stałasia,musić užo nabraŭsia,što i noh nie paciahnie? - złavałasia vyšaŭšy druhi raz. A treci raz vyšaŭšy ŭžo hołasna łajałasia:

- Jakaja chalera jaho tam trymaje?!

A hetaja "chalera" trymała Kiryłu ŭžo zusim nie na chaŭturach. Treba viedać,što kiryłava chata była za vioskaju. Jak na biadu miž vioskaju i kiryłavaju chataju abapał darohi było niekalki jamaŭ. Tamu,što jamy byli niahłybokija,dyk na ich nichto nie źviartaŭ nija-

